№ 75 (1140)
Субота, 21 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**У сувязі з выхаднымі і Днём памяці продкаў наступны нумар "Народнай волі" выйдзе ў чацвер, 26 красавіка.**






ПУЛЬС ДНЯ

## Нацыянальны "селектар"

### Выбранае

Пазаўчора ўсе жадаючыя маглі паслухаць трансляцыю так званага нацыянальнага "селектара" і пераканацца, што Аляксандр Рыгоравіч не адстаў ад жыцця, як гэта сцвярджаюць апазіцыянеры, ён моцна цікавіцца сяўбой. З гэтай мэтай і сабраў сваіх "вертыкальшчыкаў" на сходку.

Лукашэнка часта перапыняў дакладчыкаў і цікавіўся: "Ці хапае насення? Якія тэмпы работ? Якія ахвяраванні зрабілі камерцыйныя банкі сельскай гаспадарцы?..". Адчувалася, яму сапраўды цікава было даведацца, як ідуць палявыя работы, чаго і колькі пасеяна? Праўда, дакладчыкі часам казалі неўпапад. Адзін запэўніваў, што з насеннем усё ў парадку, другі, які правяраў якасць таго насення ў многіх гаспадарках, гаварыў, што амаль палова яго няякасная.

Так і прагаварылі амаль паўдня. Але гэта была не пустая гаварыльня. Як зазначыў *Сам*, гэта была "складаная мазгавая работа".

Да якіх жа вывадаў прыйшлі "вертыкальныя чыны" на чале з Лукашэнкам? З заключнага слова Аляксандра Рыгоравіча высвечваюцца два вялікіх адкрыцці, зробленыя ўдзельнікамі нацыянальнага "селектара". Першае — вясной трэба сеяць. Другое важнейшае адкрыццё — сеяць трэба вясной.

Акрамя згаданых вывадаў, "селектар" узбагаціў навуку шэрагам філасофскіх абагульненняў. Нагадаем некаторыя. Аказваецца, што механізатара, перш чым пасадзіць на трактар, трэба спачатку апрануць і накарміць. Прычым "накарміць хоць раз добрым абедам". Што маецца на ўвазе? Накарміць раз у дзень, ці ў тыдзень, ці, можа, на ўсю пасяўную? Відаць, абласныя і раённыя начальнікі павінны самі вызначыць перыядычнасць кармлення механізатараў.

Цікавыя думкі прагучалі і наконт сельскіх п'яніц: "Якія б яны ні былі п'яніцы, яны здольныя пры чалавечым абыходжанні да іх і за гэтыя мізэрныя грошы, якія ім плацяць, зрабіць усё неабходнае. Яны ўмеюць рабіць не горш за нас. І наогул, калі параўнаць, хто колькі п'е, дык і чыноўнік не менш п'е за гэтага механізатара. Каб чалавек на месцы не піў, яго трэба загрузіць працай і своечасова і добра яму заплаціць."

Наперадзе — цяжкая бітва пад назвай уборка. Неабходнасць падрыхтоўкі да яе Лукашэнка тлумачыў тым, што тэхніка зношаная, кадры, як ён казаў, таксама, бо "сяляне ўжо немаладыя". Таму ў маі неабходна правесці нараду па падрыхтоўцы да бітвы за хлеб. І тады будуць у нас "хлеб, мяса, будуць і песні".

Словам, адбылося чарговае перадвыбарнае шоу. Толку ад яго, відаць, будзе столькі, колькі ад казла малака. Бо добра вядома, што ў тых краінах, дзе не праводзяцца падобныя пераклічкі, усяго ўсім хапае. А дзе зашмат падобнай гаварыльні — там людзі канцы з канцамі не могуць звесці. Затое ў вёсках многія скажуць адзін аднаму: "Чулі, як наш Рыгоравіч перажывае за сяўбу, за тое, каб народ быў з хлебам?". Дзеля гэтага і наладжана шумлівая сходка.

У той час як дэмакратычным магчымым кандыдатам у прэзідэнты затыкаюць рот, Рыгоравіч "раскручваецца" ва ўсю.

Слухаючы гэты "селектар", міжволі ўспамінаецца народны выраз: вось каб так рукамі працавалі, як мянцяць языкамі.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## "Уклад у маю перадвыбарчую кампанію"

Падчас прайшоўшай у Мінску агульнарэспубліканскай селектарнай нарады па пытанні правядзення веснавых палявых работ прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заклікаў нафтавыя кампаніі ўкладваць у яго выбарчую кампанію. Цытуем:

"Валерый Іванавіч (Кокараў, віцэ-прэм'ер, — **БелаПАН**), вы запрашаеце беднага кіраўніка "Слаўнафты" і беднага кіраўніка Мазырскага НПЗ, яшчэ больш беднага Чэснавіцкага з Наваполацкага НПЗ (генеральны дырэктар, — **БелаПАН**), абсалютных гаротнікаў — збяднелі, абнасіліся, няма чаго апрануць — "Беларуснафту", "Дружбу" (прадпрыемства па транспарціроўцы нафты, — **БелаПАН**) і Бамбізу (прэзідэнт канцэрна "Белнафтахім", — **БелаПАН**). Кожнага абавязваеце ахвяраваць для сялян па прыкладу Беларускай чыгункі (БЧ выдзеліла 10 тысяч тон дызельнага паліва, — **БелаПАН**) па ўдзельнай вазе. Атрымаецца 15 тысяч — дзякуй, атрымаецца 9 тысяч — таксама дзякуй. Паведаміце мне да 15 мая, што гэтыя аб'ёмы выдзелены... Вы іх запрасіце і скажыце, колькі яны ахвяруюць нашаму сялу. Гэта будзе іх уклад у маю перадвыбарную кампанію. Я ўжо публічна пра гэта кажу. Мне грошы іншыя непатрэбны. Няхай дадуць маім выбаршчыкам, маім сялянам вось гэтыя аб'ёмы паліва. А потым паведаміце, хто адмовіўся".

"Асабліва, Іван Міхайлавіч (Бамбіза, — **БелаПАН**), вас папярэджваю, пакуль мы ў турму не пасадзілі некаторых вашых намеснікаў, якія там сынкам сваім камерцыйныя структуры паствараці і канверсавалі валюту, яны пастаўлялі нафту. Яны адзінае, чым могуць хоць крыху абяліць сябе, перада мной, не перад законам пакуль, а перада мной, гэта таксама немалаважна, няхай неадкладна дадуць грошы сялянам. А то вы мне тут расказваеце — жабракі, бедныя. Сёння палец не пракнеш на праспектах Мінска, немагчыма праехаць, іншамарка на іншамарцы. Бедны народ беларускі! Бедныя, жабракі мінчане! Дык вось гэтых усіх нумары запісвайце, запрашайце і няхай дапамагаюць. А то хочуць хлеба таннага паесці, малочных прадуктаў, мяса, каўбасы. Дык дапамагай, каб было танней! Каб у мяне была інфармацыя, хто і які ўдзел з багатых людзей узяў у падтрымцы сельскай гаспадаркі (...) Ахвяраванні з боку ўсіх, хто сёння ходзіць, поўзае, ездзіць на іншамарках па краіне". Так сказаў Лукашэнка.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## У Балгарыю — без пошлін

На перыяд з 1 мая па 30 кастрычніка 2001 года грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія арганізавана выязджаюць на адпачынак у Рэспубліку Балгарыя, вызваляюцца ад выплаты консульскіх пошлін. Беларускае знешнепалітычнае ведамства атрымала ноту пасольства Рэспублікі Балгарыя, у якой паведамляецца, што адпаведнае рашэнне прынята днямі Міністэрскім саветам Балгарыі.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

### Надвор'е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі — дажджы. Вецер паўднёва-ўсходні, 4—9 м/с, парывы да 14 м/с.

Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — +12...+14, Мінску, Гродне — +13...+15, Брэсце, Гомелі — +15...+17.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі — дажджы, месцамі моцныя, у асобных раёнах — навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11 м/с, парывы да 14 м/с.

Тэмпература паветра ўначы — +4...+9, удзень — +11...+16, па паўднёвым усходзе — +19.



# СТЕНА ПУТИНА



**Вячеслав ОРГИШ, доктор философских наук**

В минувший понедельник информационные агентства сообщили о том, что в Риме обрушилась древняя Аврелианова стена. Материальный реликт истории на глазах у публики превратился в руины. Слава Богу, никто не пострадал.

В III веке разваливавшаяся Римская империя предпринимала отчаянные попытки избежать своей исторической участи. В 270 году солдаты римского войска провозгласили императором начальника конного авангарда Аврелиана. Решив, что на его плечи легла великая миссия "спасения" священного государства, полководец энергично взялся за дело. На время ему даже удалось воссоединить с Империей многие отпавшие области и восстановить единство. С решительностью военного Аврелиан душил любые попытки провинций устроиться самостоятельно. Чтобы крепче привязать мятежные области к метрополии, он ввел единые деньги. С помощью репрессий ему удалось подавить внутреннюю оппозицию и добиться неограниченной императорской власти. Желая защитить сердце империи от варваров, Аврелиан распорядился возвести вокруг Рима девятнадцатикилометровую стену.

Тщетно. Меры Аврелиана не спасли великую державу, стена не защитила столицу. Спустя пять лет император пал жертвой заговора. Римская империя, хоть и пережила на некоторое время своего реставратора, тоже пала.

Похоже, сегодня история повторяется. Десять лет назад пала советская империя. События, происходящие в нынешней России, свидетельствуют об упорном нежелании российских политических кругов смириться с этим историческим фактом. Все решительнее заявляют о себе политические силы, ставящие своей задачей реставрацию Российской империи, возвращение в нее Беларуси, Украины, Молдовы, народов других стран, которые волею судеб оказались в роковом соседстве с "третьим" Римом.

Год назад передовой авангард российских силовых структур, называющийся тайной полицией, привел к власти своего начальника, который для многих россиян, одержимых манией великодержавности, стал олицетворением последней надежды. Молодой и энергичный полковник ФСБ взялся восстанавливать единство империи, усмирять мятежные российские провинции. Федеральные войска стали "мочить" непокорных чеченцев не только в сортире, но и по всей сложнопересеченной территории взбунтовавшейся кавказской республики.

Во имя чего столько крови? Во имя "высоких" государственных целей. Чтобы не допустить "цепной реакции" распада Федерации. Чтобы преподать наглядный урок, буде найдутся такие, кому придет в голову последовать чеченскому примеру.

Разумеется, реанимационно-реставрационные мероприятия по спасению российской империи молодой президент отнюдь не сводит к зачистке "дикой" кавказской провинции. Едва приступив к исполнению обязанностей, Путин вместе с поднявшей его на вершину власти корпорацией рыцарей плаща и кинжала повел дело к формированию в России политической системы, которая бы обеспечила президенту и его ближайшим сподвижникам неограниченную власть. Приструнивая разношерстную политическую и экономическую оппозицию, "обучая" ее государственной идеологии, он таким образом "восстанавливает" управляемость в стране.

Губернаторов, кого уговорами, кого аргументами из "черной" папочки, убедили, что пора возвращать центру полномочия, которых они во времена ельцинской вольницы "нахватали столько, сколько могли унести". Чтобы контроль был надежнее, губернии объединили в округа, которые возглавили кремлевские назначенцы. Совет Федерации после манипуляций, проведенных кремлевскими технологами, превратился во вполне карманный орган с предсказуемым поведением.

В результате последних парламентских выборов, на которых "неожиданно" успешно выступило пропрезидентское движение "Единство", Государственная Дума также сделалась управляемой и предсказуемой. Влияние Кремля в ее рядах становится вообще неограниченным, поскольку кремлевские стратеги провели успешную операцию по слиянию крупнейших парламентских фракций.

Восстановление "управляемости" в экономике будет еще долго вызывать икоту у российских либералов. Стремясь усилить зависимость хозяйственной жизни регионов от центрального государственного аппарата, исполнительная власть добилась перераспределения налоговых поступлений. Теперь большая (если не львиная) доля собираемых средств идет в центральный бюджет. Отныне Москва может использовать бюджетные закрома как рычаг давления на особо строптивые провинции.

Концентрация Кремлем политической и экономической власти была бы не полной, не подомни он олигархов, не устрой им показательную порку. Как известно, главными жертвами были назначены Березовский и Гусинский. Остальным толстосумам на их примере надлежало уяснить, что такое "диктатура закона" по-путински. Выбор на этих двух пал не случайно. Помимо приобретения огромного капитала, они имели "нахальство" учредить независимые от государства телевизионные каналы, газеты, журналы.

В ряду задуманных кремлевским хозяином мероприятий по спасению империи, "дезактивация" независимых СМИ была и остается одним из главных его приоритетов. "Я к штыку приравнял бы перо". Владимир Владимирович давно уяснил, что его тезка-поэт смотрел в корень. Сила убеждения и сила поражения, которую способны нести СМИ, может быть пострашнее растяжек чеченских партизан. Неограниченную власть, так нужную для восстановления единства и мощи империи, трудно реализовать, пока действуют неподконтрольные государству источники информации. Гражданскую сферу нельзя взять под контроль, пока между жизнью народа, с одной стороны, и жизнью государства, власти, с другой, нет стены.

Иначе говоря, пока между верхами и низами существует информационная прозрачность и граждане имеют возможность видеть и критически оценивать деятельность тех, кто ими правит, единомыслия не будет, а следовательно, не будет абсолютной власти. Именно поэтому мы стали свидетелями очередного этапа возведения Путиным "Аврелиановой стены" вокруг власти. Издательский дом "Семь дней", в котором крупнейший пакет акций принадлежит государственному монополисту "Газпрому", уволил коллектив независимой газеты "Сегодня" во главе с редактором Михаилом Бергером. Та же участь постигла коллектив независимого журнала "Итоги" во главе с редактором Александром Пархоменко. Несколько раньше "Газпром" произвел "зачистку" популярнейшего телевизионного канала НТВ.

Путин и ассистирующая ему корпорация чекистов добились очередного успеха в создании в России контролируемой "демократии". Российская общественность лишилась едва ли не последних информационных источников либерально-демократической направленности. Для россиян это ощутимая утрата. И не только для них. Например, согласно данным ИС НАН РБ (опрос по республиканской выборке в сентябре 2000 года), информационное воздействие НТВ на белорусскую аудиторию вполне сопоставимо с воздействием белорусского телевидения (НТВ и БТ постоянно смотрят 51% и 58% белорусского населения соответственно)*.

Сейчас не будет преувеличением сказать, что в искусстве возведения информационных барьеров кремлевские строители уже догнали белорусских коллег. В этом нет ничего удивительного, поскольку и те, и другие одержимы одной идеей. Пророссийский курс белорусской автократии органично вписывается в кремлевские планы по восстановлению западных пределов рухнувшей десять лет назад империи. Не потому ли военный человек Путин (как некогда военный человек Аврелиан) добивается введения единых российско-белорусских денег?

Тем не менее прогноз на будущее вполне благоприятен. История учит, что даже самые прочные стены, в конце концов, обваливаются. Важно только вовремя отойти на безопасное расстояние.

*P.S. Пользуясь случаем, сделаю одно уточнение. В моих статьях, напечатанных в № 53-55 (22—24 марта) имеются ссылки на мониторинг общественного мнения. Данная работа осуществлялась академическими учеными. Социологическая лаборатория "СЭИС" (начиная с 1996 года) выполняла только ее полевой этап. Результаты исследования публиковались в периодической печати.*

## Ігар Лучанок не жадае быць прэзідэнтам



Мінская гарадская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій звярнулася да старшыні Саюза кампазітараў Ігара Лучанка з прапановай выставіць сваю кандыдатуру ў якасці прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта.

У звароце, падпісаным прэзідэнтам асацыяцыі Аляксандрам Лапіцкім, гаворыцца: *"Мы пераканаlittleны, што толькі Вы, Ігар Міхайлавіч, здолееце абудзіць у нашых сэрцах і на тварах радасць і светлую надзею...".*

Гэтая ідэя выклікала ў славутага кампазітара шквал неўтаймаваных эмоцый: "Які я кандыдат у прэзідэнты! Я музыкант і ні ў якія палітычныя гульні не гуляю. Да таго ж даўно жыву ў Маскве. Прэзідэнты — даволі смелыя людзі. Што Вы! Гэта такі цяжар!".

Паводле некаторай інфармацыі, Ігар Міхайлавіч нават паскардзіўся наконт гэтай прапановы памочніку прэзідэнта Сяргею Посахаву.

Дарэчы, Лучанок заўсёды лічыўся "чырвоным" кампазітарам, творцам пры ўладзе. Незалежна ад усялякіх пераменаў у вышэйшых эшалонах.

Некалькі год таму на пытанне карэспандэнта "Народнай волі" "Ці не хочаце Вы змяніць месца жыхарства?" Ігар Міхайлавіч даволі катэгарычна адказаў: *"Прабачце. Я народны артыст Беларусі. Больш таго, я верны сын беларускага народа. Я напісаў "Мой родны кут" і "Спадчыну", "Алесю" і "Вераніку". Песні на вершы М.Багдановіча, Я.Купалы, Я.Коласа ды многіх іншых беларускіх паэтаў. Як я магу з'ехаць?! Для мяне словы "патрыятызм", "радзіма" яшчэ нешта значаць.*

*І потым, я шмат удзельнічаў у палітыцы. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, членам Вярхоўнага Савета СССР".*

Магчыма, Лучанок сапраўды стаміўся ад палітыкі. Аднак ён наўрад ці адмовіцца агітаваць за Аляксандра Лукашэнку напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

## Пенсіянераў будзе менш?

### *Урад прапаноўвае адмяніць датэрміновы выхад на пенсію*

Савет міністраў унёс на разгляд у Палату прадстаўнікоў праект закона "Аб асновах пенсіённай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь".

У чарговы раз улады дэманструюць, як без усялякіх намаганняў можна вырашаць складаныя пытанні. Сёння ў Беларусі жыве шмат пенсіянераў? Дзяржаве складана іх пракарміць? Заўтра стане менш.

У праекце, які прапаноўвае ўрад, прадугледжваецца выключэнне з дзяржаўнага сацыяльнага страхавання пенсій за работу ў асобых умовах працы і выслугу гадоў. Акрамя таго, згодна з законапраектам, людзі, якія працуюць у шкодных умовах, пазбаўляюцца права на датэрміновы выхад на пенсію.

Як вядома, сёння пенсіі гэтай катэгорыі грамадзян выплачваюцца з Дзяржаўнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва, які складаецца з адлічэнняў з нашых заробкаў. Згодна з праектам, тым, хто працаваў у асобых умовах і датэрмінова выйшаў на заслужаны адпачынак, пенсіі будуць выплачвацца не з Дзяржаўнага фонду, а страхавымі арганізацыямі. Гэта азначае, што ўлады не хочуць несці адказнасць за людзей, якія працавалі ў шкодных умовах. А сёння іх працуе ў беларускай прамысловасці, на транспарце і г.д. каля 500 тысяч чалавек. Калі "законным" шляхам затрымаць іх на працы на большы час, адразу можна вырашыць два пытанні: павялічыць колькасць працуючых і сэканоміць на пенсіях.

У абарону патэнцыяльных пенсіянераў выступіла Федэрацыя прафсаюзаў Беларуская, якая звярнулася да дэпутатаў з просьбай не прымаць закон у такім выглядзе. Да каго прыслухаюцца "народныя" выбраннікі: да распрацоўшчыкаў закона ці прафсаюзаў?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## На манумент памяці няма сродкаў

Будаўніцтва ў Мінску манумента памяці ахвяр катастрофы на Чарнобыльскай АЭС не можа пачацца з-за адсутнасці фінансавання.

Як паведаміў на сустрэчы з журналістамі прэзідэнт фонду дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы "26 красавіка" Міхаіл Образаў, будаўніцтва на плошчы Бангалор Сцяны Памяці па праекце брэсцкага архітэктара Аляксея Андрэюка планавалася пачаць яшчэ ў 1999 годзе, аднак за гэты час не ўдалося знайсці неабходных сродкаў. Пры гэтым Міхаіл Образаў адзначыў, што для будаўніцтва манумента патрабуецца ўсяго ад 50 да 70 тысяч долараў ЗША. Столькі, паводле яго слоў, каштуе добры імпартны мікрааўтобус.

Як паведаміў Міхаіл Образаў, чарнобыльскія арганізацыі звярнуліся да мінскіх гарадскіх улад і асабіста старшыні Мінгарвыканкама Міхаіла Паўлава з просьбай дапамагчы ў фінансаванні гэтага праекта ў рамках рэалізацыі мерапрыемстваў, прымеркаваных да 15-годдзя катастрофы на ЧАЭС. Паводле яго слоў, Мінгарвыканкам ужо даў папярэднюю згоду дапамагчы ў вырашэнні гэтага пытання. Прэзідэнт фонду "26 красавіка" спадзяецца, што пры дапамозе СМІ вусная падтрымка сталічных улад ператворыцца ў рэальную дапамогу.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Австрия, Беларусь, Германия провели совместную операцию

Операция, проводимая в ночь на 4 апреля на территории Австрии, Беларуси и Германии в рамках совместно расследуемого дела по подозрению в торговле людьми и задержанию членов преступной международной группировки, как бы подвела частичный итог годичной работы Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД Беларуси, в большей мере — Гродненского управления, и Федеральной криминальной полиции Германии. Управление следственного комитета при МВД по Гродненской области возбудило уголовное дело по ст.285 УК Беларуси (создание преступной организации либо участие в ней).

В ту ночь в Австрии и Германии были подвергнуты обыскам 42 объекта, исполнены 16 постановлений на арест организаторов торговли людьми и исполнителей, два лица временно задержаны, среди них женщины, которые предположительно занимались проституцией. Проводятся допросы, привод в судебные органы, продолжаются следственные действия с целью привлечения дополнительных свидетелей.

В операции участвовало 500 сотрудников полиции, 6 прокуроров и 13 судебных исполнителей для ареста имущества. Помимо следствия по обвинению в торговле людьми, было проведено предварительное следствие по обвинению в отмывании денежных средств, в рамках которого на основании результатов расследования произведена предварительная оценка прибылей, получаемых от преступной деятельности. В результате имущество обвиняемых (квартиры и др.) в несколько сотен тысяч немецких марок арестовано.

Кроме того, изъято ценных предметов на 200.000 немецких марок.

Что касается центра набора женщин из Беларуси, Украины, Казахстана, России и Узбекистана на высокооплачиваемые работы в Западную Европу, который размещался в Пружанах, то вся его документация и четверо главных организаторов взяты под стражу. Двое находятся в розыске.

**Виктор ПОТАПЕНКО, сотрудник Комитета по организованной преступности и коррупции при МВД Беларуси.**

## Одаренные сестры-близнецы

Впервые в Минске в рамках фестиваля "Минская весна-2001" ("Европейские музыкальные встречи") выступает фортепианный дуэт из Турции — лауреаты международных конкурсов, сестры-близнецы Ферхан и Ферзан Ондер. Талантливые турецкие пианистки принимают участие в гала-концерте мастеров искусств, посвященном 15-летию чернобыльской трагедии.

Молодые турецкие сестры-близнецы Ферхан и Ферзан Ондер своим выразительным исполнением уже заявили о себе в мировых концертных кругах как многообещающий фортепианный дуэт молодого поколения, хотя обучаться игре на фортепиано они начали довольно поздно — в десять лет. Тем не менее всего лишь через четыре года они стали обладателями Специального приза жюри на конкурсе Касаграндэ в Терни (Италия), а затем последовал Первый приз на Международном конкурсе фортепианных дуэтов в Гамбурге.

Их появление на фестивале в Зальцбурге по случаю награждения Поощрительным призом города Зальцбурга привлекло внимание Альфонса Контарского, дуайена фортепианных дуэтов. С тех пор близнецы поддерживают с ним близкие профессиональные отношения. Ферхан и Ферзан Ондер закончили Университет Хаджетепс в Анкаре по классу фортепиано, затем — Академию музыки в Вене.

Дуэт побывал на гастролях в Европе и на Дальнем Востоке в крупнейших музыкальных столицах, принимал участие в престижных музыкальных фестивалях, включая фестиваль Райнгау, Зальцбургский фестиваль, Клангбоген Вин, Хайдельбергер Шлоссфестшпиле и фестиваль Классик Ат Прованс.

## "Громкие дела" и громкие слова

### Белорусский Хельсинкский комитет обеспокоен судьбой "громких дел"

Пресс-служба РОО "Белорусский Хельсинкский комитет" распространила заявление, в котором говорится:

"В адрес РОО "Белорусский Хельсинкский комитет" поступило сообщение, касающееся расследования преступной деятельности В.А.Игнатовича и его группы. Среди предъявленных им обвинений — факт насильственного исчезновения оператора ОРТ Д.Завадского.

В сообщении указывается на незаконное вмешательство в расследование этого дела В.В.Шеймана в бытность его Госсекретарем Совета безопасности, на попытки скрыть отдельные преступления, в том числе касающиеся исчезновений известных общественных и политических деятелей Беларуси (Ю.Захаренко, В.Гончара и бизнесмена А.Красовского), на причастность к совершению ряда преступлений командира в/ч 3214 СОБР МВД, подполковника внутренних войск Дмитрия Павлюченко и на действия должностных лиц, препятствующих проведению расследования в отношении него.

Из текста сообщения вытекает, что должностные лица высокого ранга осуществляют незаконное вмешательство в деятельность следственной группы, препятствуют полному, объективному и законному разрешению дела, что само по себе является преступным деянием. Анонимный автор сообщает об угрозах в адрес следователей, их семей, воспрепятствованию законной деятельности по расследованию преступлений, совершенных группой Игнатовича.

Отсутствие гласности в деле об исчезновениях граждан в Беларуси приводит, по мнению БХК, к злоупотреблениям, сокрытию преступлений, нарушениям законности, принципа неотвратимости наказания, что подрывает авторитет власти, способствует нагнетанию чувства страха, дестабилизирует социально-политическую обстановку в обществе накануне выборов Президента страны..."

Принимая во внимание публичные заверения А.Г.Лукашенко о необходимости полного расследования фактов исчезновения указанных выше лиц, РОО "Белорусский Хельсинкский комитет" выражает надежду, что по указанным фактам он примет соответствующие меры.

**Наивные люди в БХК, не правда ли? А.Лукашенко будет принимать какие-то меры по отношению к Шейману? Да вы бы лучше узнали, чье поручение выполнял Шейман.**

ДАЙДЖЕСТ



## Китай не признал красноярского физика своим шпионом

Китайский посол в Москве заявил, что ничего не слышал о задержании российского ученого, обвиняемого в шпионаже в пользу КНР. В интервью Associated Press Ву Тао отметил, что Китай получает от России столько ноу-хау, сколько ему нужно, по открытым каналам. В то же время он признал, что не в состоянии оценить ситуацию, поскольку не знаком с официальной версией российских властей.

## Во время допроса Доренко дважды засыпал

Следователь Кунцевской межрайонной прокуратуры не смог допросить Сергея Доренко, против которого возбуждено дело об умышленном причинении вреда здоровью человека. Как заявил адвокат тележурналиста Павел Астахов, во время допроса его подзащитный находился под действием сильных седативных препаратов и снотворного, поэтому не мог отвечать на вопросы следователя.

## Путин решил запретить двойное гражданство

Президент России Владимир Путин направил на рассмотрение Госдумы проект федерального закона "О гражданстве Российской Федерации". Новый закон, в частности, не будет признавать двойного гражданства и поставит препоны фиктивным бракам. Кроме того, срок замены паспортов гражданина СССР на российские паспорта нового образца будет продлен до 1 января 2005 года.

## В Косово сербы сражаются с миротворцами

Один человек погиб, десять получили ранения в ходе столкновений сербов и международных миротворцев в Косово. Сербы блокируют основные дороги на севере Косово, протестуя таким образом против установления таможенных пунктов на административной границе Косово с Сербией. В четверг миротворцы с помощью тяжелой техники предприняли попытку разблокировать дороги, что и привело к столкновениям.

## Украинского депутата, укравшего деньги жертв нацистских репрессий, будут судить в Германии

Германия официально отказала Украине в выдаче народного депутата Виктора Жердицкого. Такое решение немецкая сторона мотивировала тем, что за совершенные им действия Жердицкий преследуется прокуратурой не только Украины, но и Германии. Германская прокуратура обвиняет Жердицкого в хищении 86 миллионов марок, выделенных немецким правительством для украинских жертв нацистских репрессий.

## Генпрокуратура Украины: Гонгадзе видели живым

Генеральная прокуратура Украины установила свидетеля, который видел пропавшего журналиста Георгия Гонгадзе живым в Чехии в феврале нынешнего года. Об этом сообщил замгенпрокурора Алексей Баганец, добавив, что свидетель был допрошен следователем Генпрокуратуры 18 апреля. Баганец заявил также, что следствие не располагает данными о том, что за делом Гонгадзе стоят спецслужбы иностранных государств, но такие версии отрабатываются.

## Израильские танки снова в секторе Газа

Представители палестинских сил безопасности заявили, что израильские танки и бульдозеры снова вошли на территорию сектора Газа. По сообщениям, израильские танки вошли в район международного аэропорта Газы, расположенного рядом с городом Рафа (Rafah). Согласно источнику, разрушен один из палестинских полицейских участков.

Lenta.ru

## Ученые прогнозируют сильное землетрясение в Сан-Франциско

Газета Washington Post опубликовала статью с результатами исследований американского ученого Туссона Топосады, работающего в государственном департаменте по вопросам безопасности. Исследование Топосады посвящено проблеме сейсмической активности в районе тихоокеанского побережья США. По мнению Топосады, который провел статистическое исследование данных обо всех землетрясениях в данном регионе, в ближайшее время в районе Сан-Франциско произойдет сильное землетрясение. По прогнозу Топосады, сила землетрясения составит около 5,5—6 баллов по шкале Рихтера.

Washington Post.

# ОККУЛЬТИЗМ

## Религия властолюбцев

**В начале девяностых годов западные религиоведческие источники отметили, что на территории бывшего СССР основной религией и одновременно псевдонаукой стал оккультизм. Тогдашние главные жрецы этой религии Кашпировский и Чумак для всего многомиллионного народа проводили свои мистерии и обряды. А вместе с ними посыпалась с неба и повылазила из темных углов разная нечисть, которую нашему народу почему-то представили как учителей человечества, духовных иерархов, посланников иных космических миров.**

Сейчас вроде бы стало тише. Но не потому, что этого уже нет. Это явление стало мировоззрением нашего народа. Колдуны, гадалки, экстрасенсы стали респектабельными, хорошо зарабатывающими членами общества. Конечно, они о себе уже так громко не заявляют, ведь пришлось бы отчислять большие налоги государству. Да и клиентуры хватает. Народ-то ведь у нас давно за высших богов почитает не православных или протестантских, а тех, с которыми "установил связь" или "наладил каналы" тот колдун, к которому они обратились.

К этому явлению большинство относится как к невинной заморочке, атрибуту массовой культуры. Однако это новая религия, которая, по утверждению ее лидеров, стремится стать мировой. В западных сектоведческих источниках она уже давно обозначена как "нью эйдж", религия новой эпохи. Этим термином обозначают различного рода неомистические культы и движения околовосточного, спиритического, астрологического и оккультного направления. Ньюэйджеры объявляют себя носителями религии новой эры — эры Водолея, которая приходит на смену эры Рыб или эпохи христианства.

К основным атрибутам этого вероучения относятся контактерство или определенная форма спиритизма, увлечения кристаллами, экстрасенсорикой, колдовством, астрологией, нумерологией и другими гаданиями. Явными предшественниками данного мировоззрения являются учения Е.П.Блаватской, Е.И.Рерих, А.Бейли, которые в свою очередь являются упрощенными версиями масонства.

Местом зарождения "нью эйдж" считается США, и началом его становления считаются 60-е годы. Исследователи отмечают, что к середине 70-х годов Америка, а за ней и Западная Европа заполнились пророками, претендующими на знание абсолютной истины и предлагающих свои услуги в спасении как отдельных граждан, так и всего человечества.

Однако то, что в западных странах сложилось как одно из явлений массовой культуры, в бывшем СССР развивалось и окрепло при информационной и финансовой поддержке коммунистического правительства как целенаправленная акция, направленная на создание новой религии для нашего народа.

Начиналась эта история где-то в конце 70-х, когда советское правительство установило через посредничество военных контакты с теми институтами в Америке, которые работали в направлении оккультизма "нью эйдж". Именно в те застойные времена, когда ничего не предпринималось без контроля партии и правительства, в СССР были созданы первые оккультные группы, работавшие в направлении уфологии, экстрасенсории, астрологии. Сюда был приглашен Прабхубада, который организовал здесь первые кришнаитские организации. В дальнейшем именно эти группы явились основой для быстрого распространения "нью эйдж" на постсоветском пространстве.

Наиболее тесными были отношения с институтом ноэтики, созданным американским космонавтом Эдгаром Митчелом. По-видимому, это и предопределило источники распространения инфекции "нью эйдж" в СССР, а позднее и в странах Содружества. Как ни странно, ими оказались ведомства, относящиеся к космонавтике и КГБ. Так, народные неоккультные группы и движения курировали и до сих пор поддерживают космонавт А.А.Леонов и летчик-испытатель М.Попович — жена космонавта П.Р.Поповича. Был в группе подготовки к космическим полетам Павел Мухортов, распространявший в прессе идеи крайнего вульгарного оккультизма и спровоцировавший в свое время мистическую истерию и кликушество вокруг так называемой "пермской зоны" или "М-ского треугольника". Проходил подготовку как первый белорусский космонавт Г.Г.Маньшин, ныне президент Белорусского отделения Международной академии информационных процессов и технологий, которая действует в рамках "нью эйдж". В конце 80-х годов в период бурного всплеска оккультизма в СССР во главе всех ведущих общественных объединений, пропагандирующих "нью-эйдж", стояли военные. Сейчас одну из российских "духовных" академий, функционирующую как "нью-эйдж", — Международную академию энергоинформационных наук — возглавляет отставной генерал ГРУ Ф.Р.Ханцеверов.

В России уже была предпринята попытка сделать "нью-эйдж" официальной идеологией (или религией). В Государственной Думе через Комитет по экологии рассматривался проект федерального закона "Об обеспечении энергоинформационного благополучия населения". Энергоинформатика — это онаученное обозначение современного оккультизма, или "нью эйдж".

В настоящее время особенностью "нью эйдж" в России и в Беларуси является то, что ее отдельные объединения, используя государственные институты, влияют как на идеологию общества, так и прямо управляют социальными процессами.

В Интернете имеется страничка российского ньюэйджеровского объединения Холический институт "Омега", который предлагает обучение *"высшим профессиям"*, которые *"являются элитными и связаны с такого рода деятельностью, как реформирование, трансформация и управление системами производства, воспроизводства и жизнеобеспечения. По сути дела, высшие профессии ответственны за формирование и реализацию определенных сценариев настоящего и будущего, разворачивающихся на макромасштабах сознания".* Свою деятельность этот институт связывает с такими социальными технологиями, как *"управление, политика, разрешение конфликтов, информационные и знаниевые сети, социальная инженерия, государственные реформы, либерализация и демократизация, телевидение, нетрадиционные практики тела, психики и здоровья, природоохранные и жизнесберегающие общественные движения, неогуманистические и жизнестроительские движения, новые формы искусства и т.д.".*

В качестве примера можно привести положения программы Международного астроэзотерического движения, официально именующего себя Российской национальной академией управления, межсистемного прогнозирования и кардинальной психологии. Об этой организации, возглавляемой россиянином Виталием Поляковым, представляющимся высшим магом Атлантиды, "Народная воля" писала весной прошлого года. Последователям данного движения присваивается *квалификация "психолог-политолог по общественно-политической ориентации и способам наиболее эффективной интеграции общественных усилий", "менеджер по социально-экономическому консультированию".*

В обязанности этих "психологов" и "менеджеров" входит работа в социально-экономической сфере по внедрению учения "нью эйдж", сотрудничество с государственными, общественными и духовными организациями с той же целью, внедрение в управление предприятий и организаций.

Несмотря на явный оккультно-мистический характер, на четкую социальную и политическую направленность данной организации уже после публикации в газете Министерство юстиции регистрирует ее как общественное объединение "Эволюция содружества". У астроэзотерического движения "крыша" — не только Минюст. В руководство этой ньюэйджеровской организации входит председатель городского совета депутатов г.Молодечно Н.В.Белкова. А это уже грозит депутатской неприкосновенностью "нью эйдж" у нас в республике.

"Нью эйдж" как начинал, так и продолжает навязываться нашему народу представителями власти. Другая организация оккультно-мистического направления — Педагогическая лига, возглавляемая опять же россиянином Талгатом Акбашевым, уже достаточно широко распространилась в Беларуси под покровительством помощника президента РБ С.А.Посохова. Именно данная организация создает новые учебные программы для школ и вузов. Один из проектов называется "Белая Русь — планетарная лаборатория безопасности жизни, глубинной экологии и глобального сотрудничества". Похоже, наш край уже превратился в алхимическую лабораторию, где из наших детей начали синтезировать служителей "нью эйдж".

Только за 2000 г. Педагогическая лига провела около шестнадцати конференций и фестивалей. В состав оргкомитета форума, проведенного Педагогической лигой в январе 2001 г., помимо С.А.Посохова, входил заместитель председателя Федерации профсоюзов РБ Н.А.Белановский. На этом форуме распространялась и новая библия — "Евангелие эпохи Водолея".

**Еще более теплое и укромное местечко нашел один из колдунов Беларуси, широко рекламировавшийся в газете "Рэспубліка" и работающий под именем Александр и Посланник. Он снимает офис в здании, принадлежащем Администрации президента. Кстати, он широко практикует не только "снятие порчи", но и "колдовство на смерть". Конечно, можно понять правительственного чиновника: когда своего разума не хватает, остается уповать на черную магию.**

**Таким образом, движение "нью эйдж", формировавшееся вначале как своеобразная мода на оккультизм, в настоящее время в России и в Беларуси, благодаря интенсивной работе с населением и вовлечению в него государственных чиновников, уже стало идеологией массового сознания и имеет тенденцию превратиться в государственную идеологию и религию.**

**Полина СПИРИДОВИЧ,**
**историк.**



Радаўніца ў зоне.

# Спеў чарнобыльскай птушкі...

Днямі ў Доме літаратара адбылося адкрыццё выставы вядомага фотамастака і фотажурналіста Анатоля Клешчука. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС гэта тэма стала для яго адной з асноўных. Фотарэпартажы майстра часта друкуюць не толькі айчынныя, але і замежныя перыядычныя выданні. Яго работы не раз выстаўляліся на замежных экспазіцыйных пляцоўках.

Для работ Анатоля Клешчука характэрна пільная ўвага да ўнутранага свету чалавека, ён заўсёды імкнецца паказаць глыбіню і сутнасць падзеі. Кожны твор адрозніваецца выразнасцю формы, глыбінёй зместу, пранікнёнасцю пачуцця і насычанасцю думкі. Калі хочацца пастаяць, угледзецца і задумацца...

У 1996 годзе ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі была паказана выстава "Зона журбы", прысвечаная дзецям — пацыентам Рэспубліканскага анкагематалагічнага цэнтра. Новая экспазіцыя ўяўляе сабой працяг тэмы пад назвай "Жыццё". Праз гэту абагульненую назву майстар паказаў, што, нягледзячы на жудасную катастрофу, якая цягне за сабой столькі болю, пакут і слёз, жыццё ў чарнобыльскай зоне не спыняецца.

— Жыццё адно, — кажа Анатоль Кляшчук. — І яно заўсёды прыгожае. І гэта прымушае ставіцца да яго па-іншаму. Я хацеў паказаць, што ў зоне засталося шмат цікавага. Там людзі радуюцца, кахаюць, нараджаюць дзяцей, сеюць і жнуць. Там насуперак усяму спяваюць птушкі і цвітуць кветкі.

У мяне ёсць любімая работа. У пакінутай хаце адчыненае акно ўпрыгожваюць драўляныя птушкі. У Беларусі сімвал птушкі над вокнамі мае вельмі глыбокі сэнс. За стагоддзі людзі так шмат напакутаваліся, што вокны ўпрыгожвалі птушкамі — сімваламі шчасця, дабрабыту, моцнай сям'і, кахання, вернасці. І вось людзі пакінулі свае "гнёзды", а птушкі не адляцелі...

**Таццяна КУЧЫНСКАЯ.**



# СКАЖЫ, ТАЦЦЯНА

## Ад спаранага тэлефона толькі адно выратаванне...

***Ці ёсць у "Правілах прадастаўлення паслуг мясцовымі тэлефоннымі сеткамі" пералік катэгорый грамадзян, у адносінах да якіх забараняецца без іх згоды пераключаць індывідуальны тэлефон на работу па спаранай схеме?***

***Я. СУШАНСКІ.***

*Гомель.*

Як пракаментавалі мне ў Рэспубліканскім аб'яднанні "Белтэлекам", для больш поўнага задавальнення патрабаванняў насельніцтва ў тэлефоннай сувязі, раней усталяваныя тэлефоны індывідуальнага карыстання могуць быць пераключаны на спараную схему работы. Прычым пераключэнне адбываецца без згоды абанента. Яго толькі павінны пісьмова папярэдзіць за 10 дзён да пераключэння.

"Правіламі прадастаўлення паслуг мясцовымі тэлефоннымі сеткамі" выключэнняў для абанентаў не прадугледжана. Але пры рашэнні пытання аб пераводзе дзейнічаючых тэлефонаў на спараную схему працы наяўнасць у сям'і інвалідаў І групы і інвалідаў ВАВ улічваецца. Але гэта адбываецца толькі ў выключным выпадку.

Зразумела, спараная схема дастаўляе карыстальнікам шмат нязручнасцей. Аднак выйсце пакуль толькі адно — усталяванне новых тэлефонных станцый, якія значна пашыраюць нумарную ёмістасць.

## Я б у Чэхію махнуў, дык без візы не прапусцяць

***Хочацца даведацца аб асаблівасцях атрымання ўязных віз у Чэхію. У прыватнасці, мяне цікавіць: ці можна адкрыць працоўную візу без запрашэння работадаўца, і колькі каштуе такая віза? Ці ёсць студэнцкая працоўная віза? Наколькі адпавядае рэчаіснасці інфармацыя, што ў гэтым годзе грамадзяне нашай краіны змогуць выязджаць і ўязджаць на тэрыторыю Рэспублікі Чэхія без афармлення віз?***

***Ігар МІКАЛАЙЧАНКА.***

*г. Столін.*

З пачатку 2000 года працоўная віза адкрываецца на падставе Закона №326/99 у любой амбасадзе Чэшскай Рэспублікі па ўсім свеце. Гэтым законам акрэслены і пералік дакументаў неабходных для таго, каб атрымаць візу на выезд. Аплата за візу ажыццяўляецца ў чэшскіх кронах. Для беларусаў на падставе прынцыпу ўзаемнасці за адкрыццё віз вызначаны льготны памер аплаты. На сённяшні дзень гэта складае 53 долары ЗША. Тэрмін афармлення візы па закону — да 180 дзён, але на практыцы дзесьці каля трох месяцаў з таго моманту, як былі пададзены дакументы. Амбасада сама па сабе выдаць візу не можа, і працоўная віза адкрываецца выключна са згоды паліцыі Чэшскай Рэспублікі.

Студэнцкай працоўнай візы не існуе. Максімальны тэрмін працоўнай візы — адзін год. Праўда, яго можна прадоўжыць у паліцыі ЧР.

Умовы для адкрыцця ўязных віз у Чэхію па ўсім свеце аднолькавыя. Таму бязвізавы ўезд на тэрыторыю Чэхіі для жыхароў Рэспублікі Беларусь немагчымы.

## На памер пенсіі ўплывае стаж

***Якія гады працоўнага стажу бяруцца ў разлік пры налічэнні пенсіі? Якую ролю пры налічэнні пенсіі іграе працоўны стаж (25, 35, 40 год і болей)? Якія ўвогуле фактары ўлічваюцца пры налічэнні пенсіі і што яшчэ на гэта можа паўплываць?***

***Тамара СТАЛЯРОВА.***

*Мінск.*

Артыкулам 57 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб пенсійным забеспячэнні" ўстаноўлена, што ў 2001 годзе пенсія вылічваецца з сярэднемесячнага фактычнага заробку за любыя 7 год (па выбары асобы, якая звярнулася за пенсіяй) з 17 апошніх год працы (выплаты страхавых узносаў у Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай аховы Рэспублікі Беларусь). У 2002 годзе пенсія будзе вылічвацца за любыя 8 год з апошніх васемнаццаці, у 2003 — за любыя 9 год з апошніх дзевятнаццаці і гэтак далей.

У артыкуле 23 вышэйзгаданага Закона гаворыцца, што пенсіі па ўзросце прызначаюцца ў памеры 55% сярэднемесячнага заробку, які прыведзены да сучаснага ўзроўню з дапамогай індывідуальнага каэфіцыенту заробку, але не ніжэй мінімальнага памеру пенсіі.

Вядома, што згодна з дзеючым заканадаўствам, памер пенсіі па ўзросце залежыць і ад працягласці працоўнага стажу. За кожны поўны год работы звыш 25 год мужчынам і 20 год жанчынам пенсія, у тым ліку і мінімальная, павялічваецца на 1% заробку, але не менш, чым на 1% мінімальнага памеру пенсіі. Павелічэнне праводзіцца ў межах 20 працэнтаў заробку (мінімальнага памеру пенсіі). Такім чынам, на памер пенсіі па ўзросце значна ўплывае працоўны стаж — 40 год для жанчын і 45 год для мужчын.

Трэба таксама адзначыць, што калі асоба, якая дасягнула пенсійнага ўзросту працягвае працаваць, не звяртаючыся за прызначэннем пенсіі, яна будзе павялічвацца на 1% заробку (але не менш, чым на 1% мінімальнага памеру пенсіі па ўзросце) за кожныя два поўныя месяцы працы, што прайшлі з дня ўзнікнення права на пенсію па ўзросце на агульных падставах да дня яе прызначэння. У гэтым выпадку павелічэнне пенсіі неабмежавана.

## Тэрмін акадэмічнага водпуску вызначаць медыкі

***Я студэнтка 3 курса БДЭУ дзённай формы навучання. Не так даўно ў мяне нарадзілася дзіця. Скажыце, на які тэрмін я маю права ўзяць акадэмічны водпуск і ці могуць узнікнуць у мяне праблемы пры аднаўленні пасля акадэмічнага водпуску?***

***ВОЛЬГА.***

*Мінск.*

Згодна з Інструкцыяй аб прадастаўленні акадэмічных адпачынкаў студэнтам ВНУ, навучэнцам ПТУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў па медыцынскіх паказаннях, права на акадэмічны водпуск маюць студэнткі ВНУ з 24 тыдняў цяжарнасці (па жаданні цяжарнай) пры ўмовах нармальна працякаючай цяжарнасці і з любога тэрміну пры паталагічна працякаючай цяжарнасці.

Тэрмін акадэмічнага адпачынку вызначаецца заключэннем урачэбна-кансультатыўнай камісіі медыцынскай установы, якая займаецца абслугоўваннем студэнткі.

Для паспяховага навучання пасля акадэмічнага адпачынку неабходна па магчымасці цалкам не выключацца з навучальнага працэсу і ўдзельнічаць у ім у межах індывідуальнага плана навучання, які можа быць створаны па жаданні студэнткі кіраўніцтвам навучальнай установы.

*Раздзел вядзе Таццяна КУЧЫНСКАЯ.*

## ОГП о ящуре

### Заявление Объединенной гражданской партии

Беларусь находится в состоянии экономического кризиса и депрессии. Нет ни одной стабильно развивающейся отрасли. В особенно тяжелом положении находится сельское хозяйство. Более 70 процентов хозяйств влачат нищенское существование.

В этих условиях белорусские власти пытаются воспользоваться резким падением спроса и цены на говядину на европейском рынке по причине эпидемии ящура.

В настоящее время ведутся переговоры с рядом европейских государств о закупке больших партий говядины по демпинговым ценам. Подписано соглашение с Министерством сельского хозяйства Чехии о поставке в Беларусь говядины.

В этой связи ОГП настаивает на предоставлении правительством Беларуси полного отчета о заключенном с Чехией соглашении по поставкам говядины в Беларусь, а также о других предполагаемых контрактах.

Мы обращаем внимание общественности Беларуси на то, что уже который год власти страны не в состоянии обеспечить внутренние потребности государства в сельскохозяйственной продукции. Иногда погоня за дешевым товаром сопряжена с возможными негативными последствиями для здоровья белорусских потребителей. Нельзя исключать, что импортируемая говядина впоследствии под видом белорусской будет поставляться в Российскую Федерацию.

ОГП обращается с призывом к правительствам зарубежных государств воздержаться от соблазна получения временной экономической выгоды, используя бесхозяйственность и беспомощность белорусских властей.

РЭГІЁН

## Дыскрымінацыя

Нядаўна на тэрыторыі Крычаўшчыны займела сілу сенсацыйная пастанова, якую прыняў раённы Савет дэпутатаў. Па меркаванні нешматлікіх мясцовых прадпрымальнікаў, пастанова ставіць пад пытанне не толькі развіццё прыватнага гандлю ў Крычаўскім раёне, але і яго існаванне.

Кожны прадпрымальнік, які займаецца гандлем у розных памяшканнях (крамы, шапікі і г.д.), павінен плаціць спецыяльны грашовы збор за права гандлю. Сума збору роўная 50% мінімальнай заработнай платы за адзін працоўны дзень незалежна ад памераў гандлёвай плошчы. Так, калі крама ці шапік будуць адчынены ўсе 30 дзён у месяц, то гаспадару прыйдзецца заплаціць 85.500 беларускіх рублёў (!). Такім чынам, можна канстатаваць, што падатковы ціск на асобна ўзятага крычаўскага гандляра зараз павялічыўся прыкладна ў 3 разы. Раней падобнае права каштавала 7 "мінімалак" у месяц.

Збор будуць браць і пры гандлі з аўтамашын. У такім выпадку штодзень трэба плаціць 10% ад мінімальнага заробку.

## Страшная лесапілка

У Чэрыкаўскім раёне са жніўня мінулага года функцыяніруе цэх па перапрацоўцы радыеактыўнай драўніны. Узровень смертаноснага забруджання тут значна перавышае 15 кюры на квадратны метр.

Старажытная, вядомая з ранняга сярэднявечча чэрыкаўская вёска Вепрын была адселена практычна адразу пасля сумнавядомай катастрофы. Смерць літаральна насыціла ўсё наваколле сваім халодным дыханнем. Яшчэ шмат стагоддзяў гэта зямля будзе мёртвай. Аднак, "смертию смерть поправ", чэрыкаўскія ўлады прынялі рашэнне і... штодзень рабочыя-смертнікі распілоўваюць у Вепрыне каля 10 кубаметраў навакольнага лесу, які пастаўляюць іншыя смертнікі — пільшчыкі. Трэба адзначыць, што ўмовы працы на страшнай лесапілцы пакідаюць жадаць лепшага. Рабочыя, напрыклад, харчуюцца тым, што бяруць з дома.

Горы пілавіння, трэскаў і кары, якія валяюцца навокал і ўяўляюць сабой міні-рэактар, чакаюць свайго часу яшчэ з леташняй восені. Па "тэхналогіі" яны павінны быць закапаны ў зямлю.

Асноўным замоўшчыкам вепрынскіх дошак з'яўляецца адна маскоўская фірма, якая плаціць за іх саляркай. Далейшы лёс набытай такім чынам прадукцыі невядомы — след дошак губляецца на неабдымных абшарах Расійскай Федэрацыі.

## Праз суд

Толькі за апошні год замежныя грамадзяне ўсынавілі 14 мсціслаўскіх дзяцей-сірот. І вось зноў зусім нядаўна дзве дзяўчынкі з мсціслаўскай школы-інтэрната займелі амерыканскіх бацькоў.

Некалькі разоў запар нашы цяпер ужо былыя суайчынніцы адпачывалі ў заакіянскай сям'і, у якой ужо выхоўваліся двое сваіх дзяцей. Сустрэчы, сумесныя кантакты і шчырыя сэрцы прывялі да таго, што амерыканцы звярнуліся да беларускіх улад з просьбай дазволіць ім удачарыць абяздоленых беларусачак.

Аднак, як вядома, да замежнікаў у нас ставяцца з недаверам, і таму працэс яднання новай сям'і некалькі зацягнуўся. Усе праблемы вырашыў толькі Магілёўскі абласны суд, які адчыніў-такі мсціслаўчанкам-прыгажуням шлях да светлай будучыні. Удачы вам!

**Андрэй КУЗЬМІН,**
**кіраўнік інфармацыйнай службы "Кантакт-цэнтр".**
**г.Крычаў.**

